


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

ТУ плюс

26 красавіка 2002 года

№ 17 (366)

Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Дыплом з Малдовы

**МАЛАДЗЕЧНА**. З 17 па 21 красавіка ў Кішынёве прайшоў тэатральны фестываль "Пад шапкай Гугуцэ". У ім удзельнічаў Мінскі абласны лялечны тэатр "Батлейка" з Маладзечна.

За спектакль "Меч анёла" (рэжысёр **Юрый Сарычаў**) акцёры атрымалі дыплом фестывалю і прыз за лепшы спектакль на рэлігійную тэматыку.

**Ірына РАБУШКА.**

### Аб'ядналіся ў кааператыў

**ВАЛОЖЫН**. На мінулым тыдні рашэннем райвыканкома аб'ядналіся стратныя калгасы імя Куйбышава і "Перамога". Цяпер яны – сельска-гаспадарчы вытворчы кааператыў "Ніва", які ўзначальвае былы старшыня "Перамогі".

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Школьнікі зарабляюць грошы

**АСТРАВЕЦ**. Настаўнікі калектыў арганізаваў серыю платных канцэртаў пад назвай "Там, дзе музыка жыве". Першы прайшоў 23 красавіка ў актавай зале школы.

Білет каштуе 100 рублёў, а асноўнымі слухачамі сталі вучні астравецкіх школ.

Усе зробленыя грошы залічваюцца на рахунак аддзела культуры выканкома і будуць выкарыстоўвацца для ўтрымання ўстаноў культуры, набыцця музычных інструментаў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Дзве ахвяры пажару

**ВІЛЕЙКА**. 22 красавіка ў Вязыні загарэўся жылы дом. У агні загінулі 37-гадовы мужчына і 23-гадовая жанчына.

Згарэлі два пакоі – астатнія пажарныя выратавалі. Прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні ў нецвярозым стане.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### На Газманава не пайшлі

**СМАРГОНЬ**. Малодшы Газманаў днямі завітаў у Смаргонь. Зорка, а білетаў на яго смаргонцы купілі мала. Дыскатэку ён яшчэ адпеў, а вось канцэрта на другі дзень не было. Нават сотні жадаючых не знайшлося, каб прыйсці на **Радзівона**. Ён казаў са здзіўленнем: "Навошта я сюды прыехаў?".

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**

### Турнір памяці Вячаслава Сасонкі

**ВІЛЕЙКА**. 19 красавіка адбыліся гарадскія спаборніцтвы па пажарным спорце сярод юнакоў 9-11 класаў.

Яны прысвечаныя памяці пажарнага Вячаслава Сасонкі, які загінуў летам 1999 года пры тушэнні пажару. Удзельнічалі прадстаўнікі трох школ горада. Каманды складаліся з васьмі школьнікаў і аднаго выкладчыка. Спаборніцтвы праходзілі на тэрыторыі пажарнай часці.У пераадольванні 100-метровай паласы з перашкодамі апярэдзіў усіх **Азат Балкібекаў** з СШ №3. **Вадзім Рогач** паказаў лепшы вынік у пад'ёме па штурмавой лесвіцы ў акно першага паверха. У баявым разгортванні рукавоў перамаглі вучні СШ №1 **Вадзім Чуковіч**, **Уладзімір Дуброўскі**, **Аляксей Каросцік**. Агульнакаманднае 1-е месца заняла СШ №3, 2-е – СШ №5, 3-е – СШ №1. Пераможцы ўзнагароджаныя граматамі і каштоўнымі падарункамі.

**Ірына РАБУШКА.**

### Адмена электрацягнікоў



26 красавіка адмяняецца электрычка Маладзечна-Мінск адпраўленнем з Маладзечна ў 9-41, прыбыццём у Маладзечна ў 12-59.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 27 красавіка

**Мінск**

8°С (уначы)
19°С (удзень)

**Вільня**

7°С (уначы)
19°С (удзень)

Нядзеля, 28 красавіка

**Мінск**

3°С (уначы)
19°С (удзень)

**Вільня**

6°С (уначы)
18°С (удзень)

# Журыхінскія цуды

## У калгасе «Чырвоны сцяг» зарплату не плацяць са студзеня

**ВІЛЕЙКА. У красавіку даяркі, што працуюць на ферме ў вёсцы Журыхі, не выйшлі на работу – апошні раз грошы калгаснікі атрымалі ў студзені. Праўленне калгаса ўгаварыла пенсіянерак выйсці падаіць кароў. А даярак за парушэнне працоўнай дысцыпліны старшыня калгаса паабяцаў пазбавіць часткі красавіцкай зарплаты.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

22 красавіка, вёска Журыхі. Жывёлавод калгаса «Чырвоны сцяг» Юрый Кезік са сваім сабакам Джэсі.

### Пенсіянеры-кармільцы

Тое, што справы ў калгасе ідуць дрэнна, стала зразумела па стане шыльды з назвай калгаса, якая стаіць перад уваходам у вёску. Надпіс "Красное знамя" пасярэдзіне "упрыгожвала" прабоіна. А на слупе – надпісы смалой – "body building".

Хачу зайсці ў магазін. Цікава, што купляюць там вяскоўцы. Вуліца Цэнтральная. У вокнах на некаторых дамах замест шкла – цырата. Сустракаю на вуліцы мужчыну, да яго падышоў хлопец. Яны назваліся жывёлаводамі калгаса: 57-гадовы **Аляксандр Ракецкі** і 23-гадовы **Юрый Кезік**. Расказалі, што галоўныя кармільцы ў вёсцы – пенсіянеры. Яны адныя атрымліваюць грошы. Астатнія перабіваюцца "хаўтурамі" – дапамогуць тым жа бабкам бульбу пасадзіць. Тым і жывуць.

### Магазін

Загадчыца магазіна **Марыя Гардзей** сустрэла словамі:

– Зрабіце што-небудзь! Уся вёска без хлеба сядзіць. Даяркі не могуць купіць пачак парашку. Асартымент у нас нармальны – сёння завезлі 5 відаў хлебабулачных вырабаў і 2 віды хлеба. А людзі злуюцца – маўляў, грошай няма, а вы яшчэ садавіной і йагуртамі здзекваецеся. Таго ж хлеба прывезлі 56 булак. Ды і тое ў ўвесь прададзім. Звычайна, у дзень прадаём каля 40 булак. На 380 чалавек насельніцтва. У мяне зарплата ідзе ад тавараабароту. А які тут тавараабарот? За сакавік атрымала 46 тысяч рублёў. Прадавец – 34 тысячы. Шкада людзей. Стараемся ўякі прыняць. Яшчэ хто пустую бутэльку ці слоік прынясе. Так на хлеб і збіраюць.

### Даяркі

12 гадзін дня – час зноў выганяць кароў пасвіцца. Ідзем разам з двума спадарожнікамі на ферму. Даяркі сядзяць ля сцяны, на працу асабліва не рвуцца.

– Усё роўна не плацяць. Вырашылі забастоўку наладзіць – не пайшлі на работу. Старшыня калгаса лётаў па вёсцы, збіраў пенсіянераў. Тыя пайшлі, бо ў калгасе кожнаму трэба каня ўзяць, яшчэ што. З нас пытаецца, чаму малака стала менш, а чаму мы ходзім галодныя – не пытаецца. Зарплаты па 20-30 тысяч – і той выплаціць не можа. І на дзяцей грошы толькі за студзень атрымалі. Хутка Вялікдзень, а на стале нават хлеба няма. На 8 Сакавіка ў канцы дня прыйшлі з канторы і сказалі, каб забіралі падарункі – шампунь. Хоць памыліся. Пыталіся ў старшыні, чым дзяцей карміць. Адказаў, што вада пакуль бясплатная.

### Старшыня

У бухгалтэрыі калгаса сказалі, што апошні раз плацілі зарплату за студзень. Яе атрымалі трактарысты. На 14 чалавек – 369 тысяч рублёў. Калі адняць кампенсацыю за адпачынкі, атрымліваецца па 16 тысяч на чалавека. У калгасе працуе 110 чалавек. У пачатку 90-х гадоў было 300.

Старшыня **Вячаслаў Кагаль**:

– Адзіная крыніца даходаў у калгасе – малако. Мы яго адпраўляем на гармалзавод, які не можа з намі разлічыцца. Калі ён аддасць грошы, тады мы зможам выплаціць зарплаты калгаснікам. Калі канкрэтна нам выплацяць даўгі – адзін Бог ведае. Такое самае становішча ва ўсіх калгасах раёна.

Старшыня калгаса "Чырвоны сцяг" аб'ектыўна не можа якасна выконваць сваю работу. І некалькі раз на месяц ідзе "на ковёр" да старшыні райвыканкома за тое, што калгаснікі не атрымліваюць зарплату, што сярэдні налічаны заробак ніжэй за 100 долараў, што зніжаецца якасць малака, што бываюць выпадкі п'янства ў калгасе. Вячаслаў Кагаль афіцыйна не атрымлівае зарплату са студзеня. Ён не з Журыхаў, гаворыць, што можа ўладкавацца на іншую работу. Але чаму ён працуе толькі за вымовы, а не за грошы, старшыня калгаса так і не растлумачыў.

### Выканком

Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі **Віталь Бандарык**:

– Што далей? Каб я знаў выйсце, я вам адказаў бы. Рэкамендацыі нам з вобласці такія: прадавайце прадукцыю за межы рэспублікі. А паспрабуй прадаць, калі цэны кусаюцца. Таму застой. Па стане на 24 красавіка 13 з 25 гаспадарак раёна не выплацілі зарплату за студзень. Нельга сказаць, што гармалзавод не дапамагае. Насенне кукурузы сёлета раён купляў праз гармалзавод. Запасныя часткі да плугоў і сеялак мы таксама набылі з яго дапамогай.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

 



## Кніга пра Будслаў

**МЯДЗЕЛ. Тыражом 300 экземпляраў выйшла кніга "Падарожжа ў Будслаў". У ёй змешчаныя малюнкі каталіцкіх святынь Беларусі, зробленыя вілейскім мастаком Уладзімірам Лукшам.**

У асноўным, у кнізе прадстаўленыя выявы Будслаўскага касцёла і тамтэйшых краявідаў, але ёсць і малюнкі храмаў у Вілейцы, Маладзечне, Мядзеле, Крывічах і іншых населеных пунктах рэгіёна. Апроч малюнкаў, у кнізе змешчаныя і вершы, якія дзеці прыслалі на конкурс, прысвечаны Маці Божай Будслаўскай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




**Вокладка кнігі "Падарожжа ў Будслаў".**

## Рэгіянальны конкурс інспектараў дарожнага руху

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 красавіка адбылося рэгіянальнае спаборніцтва юных інспектараў дарожнага руху. Трыццатае па ліку.**

Арганізатарамі сталі гарадскі аддзел адукацыі сумесна з дзяржаўтаінспекцыяй. Удзельнічалі каманды з Вілейкі, Мядзела, Маладзечна і Маладзечанскага раёна (па 8 чалавек – 4 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі). Перад пачаткам спаборніцтва ўсім удзельнікам уручылі памятныя юбілейныя медалі. Адначасова праводзіліся 4 конкурсы:

фігурнае ваджэнне веласіпеда;

захаванне правілаў дарожнага руху пры яздзе на веласіпедзе;

тэорыя правілаў дарожнага руху;

зборка і разборка веласіпеда.

Потым праводзіўся конкурс плакатаў і самадзейнасці.

Маладзечанскую каманду прадстаўляла беларуская гімназія. Адзін з суддзяў, настаўнік фізічнай культуры маладзечанскай СШ №5 **Аляксандр Страх**:

— Зразумела, "хваравю" за нашых. Шкада, што было адно падзенне ў першым конкурсе.

Гэта не перашкодзіла маладзечанскай камандзе заняць 1-е месца.

Вілейская каманда 6 разоў перамагала на рэгіянальных спаборніцтвах. На абласных ніжэй за 6-ю прыступку не спускалася.

Старшы дзяржаўтаінспектар Вілейскага РАУС **Віктар Клямята**:

— У такім складзе каманда перамагала 3 гады. Усе дзеці вучацца ў Ільянскай СШ. Майстэрства іх расце. Ёсць зацікаўленасць змагацца.

Па складанасці гэтыя спаборніцтвы можна прыраўняць да абласных. Маладзечанцам, напэўна, дапамогуць родныя сцены.

Віляйчане занялі другое месца.

Вучні з Мядзельскай СШ №1 занялі трэцяе месца.

Маладзечанскі раён прадстаўляла Красненская СШ. Дзеці вельмі хваляваліся. Нават адзін за адным гатовыя былі ехаць на веласіпедзе. Прыехалі школьнікі на чацверты радок.

Настаўнік фізічнай культуры Красненскай СШ **Іван Мацкевіч**:

— У раённы аддзел адукацыі прыйшло Палажэнне аб конкурсе. Таму ў школы таксама прыйшло са спазненнем. Мала часу было на падрыхтоўку. А дзеці ўдзельнічаюць з задавальненнем.

За 1-е і 2-е месцы былі ўручаныя наручныя гадзіннікі, за 3-е – альбом. Усім камандам далі па торце. Каманда Маладзечна будзе працягваць спаборніцтва 2-3 мая ў летніку "Зубраня".

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**На трасе Юра Куратнік. Збоку едзе Паша Атрацэўскі. Так вучні Красненскай СШ падтрымлівалі адзін аднаго.**

## «Оскар» «Малой сакавіцы-2002»

**З 8 па 19 красавіка ў Маладзечне прайшоў першы гарадскі фестываль дзіцячых драматычных калектываў "Малая сакавіца-2002".**

Фестываль арганізаваў Цэнтр пазашкольнай работы пры дапамозе Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Журы прагледзела 10 конкурсных спектакляў і вызначыла пераможцаў. Яны атрымалі дыпломы ў намінацыях: "Лепшая роля другога плана", "Лепшая галоўная роля". Па-за конкурсам СШ №7 атрымала яшчэ і ганаровую грамату ад літаратурнага аб'яднання "Ad Marginem" за прафесійны падыход да тэатральнага мастацтва. А "Маладзечанскага Оскара" – галоўны прыз "Малой сакавіцы" – атрымала тэатральная студыя САШМ "Кипяток" за спектакль "Паўлінка".

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ **ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ**

## «Пiлiпка-сынок»

"Жылі-былі Дзед і Баба, але дзяцей у іх не было. І вось аднойчы пайшоў Дзед у лес, высек бярозавае палена і прынес дахаты". З гэтага моманту і пачынаюцца прыгоды ў спектаклі "Пілiпка-сынок".

Пiлiпка – гэта звычайны беларускі хлопчык, які больш за ўсё любіць вудзіць рыбу на возеры, але гаспадыня цёмнага лесу і возера – злая Ведзьма, якая толькі і марыць, каб злавіць маленькага рыбака. Толькі Пілiпка такі знаходлівы, што Ведзьма і сама не ведае, чым можа для яе скончыцца гэтае паляванне.

## «Прывітанне для Мартышкі»

Дзе вы можаце ўбачыць забаўную Малпачку, вясёлага Папугая, прастадушнага Слоняня, добрага і даверлівага Удава? Не, не ў Афрыцы. І не ў заапарку. Не здагадаліся яшчэ? Гэта жыхары спектакля "Прывітанне для мартышкі". Калі вы паспяшаецеся ў "Батлейку", то зможаце даведацца, якога росту Удаў, і якое яно – прывітанне для Мартышкі.

**Тацццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

## Больш увагі выхоўванню патрыятызму

**ВАЛОЖЫН. 22 красавіка ў памяшканні раённага музея адкрылася выстаўка "Хто быў на вайне, не забудзецца пра яе", прысвечаная Дню Перамогі.**

На ёй можна даведацца пра лёсы і ўспаміны ветэранаў Валожыншчыны, паглядзець эксклюзіўныя экспанаты часоў другой сусветнай вайны, паслухаць расказы ўдзельнікаў баявых дзеянняў.

Расказвае кіраўнік рабочай групы па стварэнні музея **Наталля Лоўчая**:

— Гэтая выстаўка – вынік работы збіральніка і захавальніка матэрыялаў пра Вялікую айчынную вайну **Мечыслава Новака**. Нашы работнікі таксама хадзілі да ўсіх ветэранаў, збіралі фотаздымкі, паштоўкі, цікавыя рэчы. Кожны дапамагаў, каб сёння школьнікі Валожынскай гімназіі, усе, хто завітаў да нас, даведаліся пра тыя жудасныя гады вайны.

Разам з музеем, экспанаты з пакоя баявой славы выстаўляе і вайсковая часць Валожына.

Намеснік камандзіра брыгады па выхаваўчай рабоце **Станіслаў Паўлюць** лічыць, што развіццю патрыятызму трэба надаваць больш увагі. Таму кожны дзень ён будзе прыводзіць сюды салдат, якія павінны ведаць сваю гісторыю і герояў. Выстаўка будзе працаваць да 16 мая.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на май

**Ранішнія спектаклі**

3 пятніца, 10-00 **"Добры змей"** (лясная казка) Аляксей Якімовіч

| | |
|---|---|
| 10 пятніца 10-00 | **"Проста Мяфа"** (пастараль для дзяцей) Алена Палешчанкава |
| 15 серада 10-00 | **"Чарадзейства ў краіне Оз"** (казка-канцэрт) Галіна Булыка |

**Вячэрнія спектаклі**

2 чацвер, 19-00 **"Без мяне мяне ажанілі"**. Франц Кроц

| | |
|---|---|
| 3 пятніца 19-00 | **"Характары"** (лірычная камедыя)" Васіль Шукшын |
| 7 аўторак 19-00 | **"Двое на арэлях"** (балада пра каханне ў 2-х дзеях) Уільям Гібсан |
| 10 пятніца 19-00 | **"Прынц Мамабук"** (камедыя-гратэск у 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 11 субота 17-00 | **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) Рабер Тама |
| 15 серада 19-00 | **"Кім"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |
| 17 пятніца 19-00 | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |
| 18 субота 17-00 | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| 19 нядзеля 17-00 | **"Хачу..."** Выступленне народнага тэатра Маладзечна Мрожак |
| 23 чацвер, 29 серада 19-00 | **"Хочаш вер – хочаш не вер..."** (жартоўная камедыя ў 2-х дзеях) Юрый Вута |
| 24 пятніца 19-00 | **"Секс па перапісцы"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях) Лявон Вашко |
| 28 аўторак 19-00 | **"Чорная нявеста"** (меладрама ў 2-х дзеях) Жан Ануй |
| 30 чацвер 19-00 | **"Апошняя ахвяра"** (меладрама ў 2-х дзеях) Аляксандр Астроўскі |
| 31 пятніца 19-00 | **"Вавілон"** (фантасмагарычная камедыя ў 2-х дзеях) Аляксей Дудараў |

Мастацкі кіраўнік – заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Мацкевіч. Маладзечна, вул. Чкалава, 7. Тэл. каса 52417, гал. адміністратар 61732

## Журналісты пратэстуюць

**Амаль сем дзесяткаў беларускіх журналістаў, сярод якіх прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ Міхаіл Пастухоў, галоўныя рэдактары і журналісты нацыянальных і рэгіянальных выданняў, у тым ліку, і "Рэгіянальнай газеты" падпісалі зварот, дзе выказваецца пратэст у сувязі з пагаршэннем сітуацыі са свабодай слова ў Беларусі. У звароце гаворыцца:**

«Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 года ўлады актывізавалі наступ на свабоду слова і інфармацыі. Зачыненая адна з найстарэйшых беларускіх незалежных газет – "Пагоня". Па фактах публікацый у шэрагу выданняў вострых крытычных матэрыялаў распачатыя крымінальныя справы. Галоўны рэдактар "Пагоні" **Мікола Маркевіч** і карэспандэнт газеты **Павел Мажэйка** прыцягнутыя да суда і абвінавачваюцца ў здзяйсненні злачынства – паклёпу на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.2 арт. 367 КК).

Арганізаваны пратэст гродзенскіх журналістаў супраць суда над іх калегамі быў задушаны пры дапамозе міліцыі. Трынаццаць удзельнікаў пікета зведалі меры адміністрацыйнага ўздзеяння: штрафы і арышты тэрмінам ад трох да дзесяці сутак.

Падобнае стаўленне ўлады да прэсы даўно ўжо нехарактэрнае для ўсяе еўрапейскае прасторы. Беларусь засталася апошняй "зонай немасці" на карце Еўропы, дзе ўлада ўжывае адкрыта рэпрэсіўныя метады барацьбы з іншадумствам, на словах дэкларуючы сваю прыхільнасць да дэмакратычных каштоўнасцяў.

Падзяленне СМІ на "сваіх" і "чужых" вядзе да паглыблення расколу грамадства, нараджае канфлікт паміж уладай і прэсай. Такая палітыка падвойных стандартаў несумяшчальная з патрабаваннямі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзеючым заканадаўствам аб СМІ і міжнароднай прававо практыкай.

Мы патрабуем спыніць крымінальны пераслед журналістаў Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, а таксама спыніць крымінальныя справы супраць журналістаў, якія выконвалі свае прафесійныя абавязкі.

Праваахоўныя органы – пракуратура, міліцыя, КДБ – не павінны выкарыстоўвацца ў якасці інструмента рэпрэсій супраць няўгодных уладам СМІ і журналістаў, а суды не павінны ператварацца ў сродак расправы над іншадумцамі.

Мы звяртаем увагу дзяржаўных органаў і іх службовых асоб на недапушчальнасць парушэнняў свабоды слова і інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь, гарантамі якіх яны павінны выступаць ў адпаведнасці з Канстытуцыяй.

Мы заклікаем беларускіх заканадаўцаў адказна падысці да абмеркавання праектаў закона "Аб падставах забеспячэння інфармацыйнай бяспекі" і новай рэдакцыі закона "Аб сродках масавай інфармацыі". Заканадаўства аб СМІ павінна адпавядаць міжнародна-прававым стандартам і служыць усяму грамадству, а не некаторым асобам. У сувязі з гэтым мы настойваем на правядзенні адкрытага грамадскага абмеркавання згаданых законапраектаў і на іх незалежнай экспертызе.

Мы звяртаемся да беларускай і міжнароднай грамадскасці з заклікам выказаць сваё стаўленне да сітуацыі са свабодай слова ў Беларусі. Гэта можа спрыяць спыненню кампаніі пераследу журналістаў».

## Танцавалі па-беларуску

**МЯДЗЕЛ. Першая беларуская дыскатэка адбылася ў горадзе.**

А правялі яе ў Мядзельскай СШ №2 старшакласнікі **Віталь Вінаградаў** і **Вадзім Місуна**. Вялі дыскатэку на беларускай мове, ды і палова музыкі была родная. Ладзілі і віктарыны з пытаннямі пра нашу краіну. Галоўны прыз – кампакт-дыск (натуральна, з беларускай музыкай) атрымаў **Сяргей Бучынскі**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Бацькі і дзеці: вечныя спрэчкі

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 красавіка ў міліцыю звярнуўся жыхар вёскі Мароські. Ён скардзіўся на дачку, якая пабіла яго падчас спрэчкі.**

А 20 красавіка ў вёсцы Рачная 37-гадовы мужчына забіў свайго бацьку, таксама ў час сваркі. На месцы здарэння аператыўнікі знайшлі кухонны нож і драўляную палку, на якіх былі бурыя плямы. Па факце злачынства ўзбуджаная крымінальная справа.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Свінаферма без аховы – пустое памяшканне

**МАЛАДЗЕЧНА. 18 красавіка са свінафермы "Токараўшчына", якая належыць птушкафабрыцы, укралі 10 свіней.**

Невядомыя сарвалі дзвярныя запоры і залезлі ў памяшканне. Матэрыяльны ўрон рэспубліканскага аб'яднання "Белптушкапрам" складае 1 мільён 113 тысяч 200 рублёў.

Супрацоўнікі аддзела неаднаразова звярталіся да дырэктара птушкафабрыкі, каб на тэрыторыі фермы наладзілі ахову. Але ён ніяк не адгукнуўся. Па факце ўзбуджаная крымінальная справа.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

 

■ НАШ ДОМ

# Цэны на рынку жылля будуць расці

**Аналіз сітуацыі на рынку жылля дазваляе з поўнай упэўненасцю сцвярджаць, што рынак нерухомасці знаходзіцца ў стане амаль поўнага крызісу, а цэны паступова ідуць уверх.**

Пасля ўзлёту цэнаў да высокага ўзроўню 2000 года (ад 8 тысяч за 2-пакаёвую і ад 10000 за 3-пакаёвую кватэры) у мінулым годзе жыллё ў першым паўгоддзі заставалася адносна таннае і толькі з прыходам зімы цэны паступова пачалі расці. Перш за ўсё, сказалася рэзкае зніжэнне прапановы жылля за кошт замаруджвання ўводу новых кватэр і забароны прадаваць на працягу трох год кватэры ў льготных ЖБК. Новыя дамы амаль не прапаноўваюцца, выстаўляюцца, у асноўным, “хрушчоўкі”. Пры амаль стабільным попыце зніжэнне якасці выстаўляемых на продаж кватэр рэзка падагнала цэны, і кватэры пачалі даражэць. За мінулыя паўгода цэны падскочылі на 500-1000 долараў, у залежнасці ад памеру кватэры. Другім момантам аказалася фактычна і слабая прапанова. Зімой грмадзяне асабліва не спяшаюцца развітвацца з кватэрамі, пакідаючы ўсе клопаты па разменах і раз'ездах на вясну-лета. Кватэры, што прапаноўваюцца ў апошнія месяцы, – або хрушчоўкі, або ўжо вельмі дарагія, з прэтэнзіямі на еўрарамонт. За 2-пакаёвую хрушчоўку просяць ужо 8 тысяч, а першапачатковая цана на 2-пакаёвую кватэру з еўрарамонтам дасягае 12 тысяч долараў.

Яшчэ адной прычынай слабай прапановы кватэр на рынку стала нежаданне пры наяўнасці свабодных сродкаў расставацца з нерухомасцю ў цяперашні неспакойны час. Гэтая прычына патэнцыяльных прадаўцоў пабуджае не спяшацца прадаваць, а пакупнікі, наадварот, спяшаюцца, пакуль не грымнуў гром, выгадна прыстроіць свабодныя грошы. Як звычайна, ва ўмовах крызісу нерухомасць з'яўляецца асабліва прываблівым секктарам укладання і выратоўвання грошай. Рэальныя пакупнікі кватэр на рынку – сем'і, якія раз'язджаюцца, і заможныя грамадзяне. Першых менш, таму што размяняць тую ж 3-пакаёвую кватэру на дзве без даплаты немагчыма.

Перспектывы развіцця сітуацыі наступныя. З пачаткам чакаемай прыватызацыі і прыходам інвестараў жыллё непазбежна будзе даражэць, цэны дасягнуць ранейшага ўзроўню: 1-пакаёвая – 6-7 тысяч, 2-пакаёвая – 8-9 тысяч, 3-пакаёвая – больш за 10-11 тысяч долараў.

На рынку арандаваных кватэр ажыятаж. Паўсюль аб'явы жадаючых наняць кватэру. Попыт перавышае прапанову. Таму і цэны падскочылі, сёння наняць што-небудзь танней за 30 у. а. у месяц нерэальна, вельмі шмат клопату гаспадарам, ды і на рамонт пасля кватарантаў можа не хапіць. У гэтым сегменце цэны таксама растуць.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

Нерухомасць ва ўсе часы была выгадным сектарам уладкавання грошай. Фота ІНЕХ/ProMedia.

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 красавіка | 25 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1732,00 руб. | **1735,00** руб. |
| ЕЎРА | 1536,72 руб. | **1542,15** руб. |
| Злоты | 427,41 руб. | **429,08** руб. |
| Літ | 445,12 руб. | **446,51** руб. |
| Расійскі рубель | 55,60 руб. | **55,68** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1750 – 1765 руб. | **1750 – 1780** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 17.04 | 24.04 |
|---|---|---|
| **Курыныя кумпячкі**, 1 кг | 2600 | **2600** |
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 8900 | **8800** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4300 | **4300** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2200 | **2200** |
| **Рыс**, 1 кг | 650 | **650** |
| **Грэчка**, 1 кг | 520 | **530** |
| **Цукар**, 1 кг | 725 | **720** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 750 | **880** |
| **Алей**, 1 л | 1500 | **1500** |
| **Маянэз**, 200 г | 350 | **340** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 800 | **800** |
| **Капуста**, 1 кг | 800 | **880** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1700 | **1700** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1550 | **1600** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1400 | **1400** |
| **Масла**, 1 кг | 3000 | **3500** |
| **Тварог**, 1 кг | 1500 | **1300** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **600** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1200 | **1200** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2600 | **2500** |

## «Банкіры» губляюць лідэрства па заработках

МЯДЗЕЛ. Упершыню за апошнія гады не ў работнікаў крэдытавання і страхавання найбольшыя заробткі. У сакавіку іх апярэдзілі працаўнікі ЖКГ – атрымалі там за 180 тысяч рублёў. У банках мелі на 3 тысячы меней.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Кватэрныя крадзяжы: правілы бяспекі

**МАЛАДЗЕЧНА. За чатыры месяцы ў горадзе абрабавалі 34 кватэры. Гэта на 3 больш, чым летась.**

16 красавіка ў шостым мікрараёне ў пад'ездзе абрабавалі кватэру, нягледзячы на тое, што быў дамафон. Спачатку адціснулі рыгель кнопкавага замка вонкавых дзвярэй, потым узламалі ўнутраныя. Гаспадары засталіся без камп'ютэра і 1500 долараў.

### Як не стаць ахвярай злачынства

Парады дае старшы ўпаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку маладзечанскага ГРАУС **Ігар Асановіч**:

— замяніць кнопкавы замок на любы іншы або ўстанавіць дадатковы;

— на дачах, першых паверхах кватэр і дамоў паставіць дэкаратыўныя краты на вокны;

— не пакідаць ключы ва “умоўных месцах”: пад дыванком, у альтанках, хлявах;

— не ўпускаць у кватэру незнаёмых людзей, што б яны ні прапаноўвалі і ні прасілі;

— думаць, каго клічаш дадому і з кім п'еш спіртныя напіткі. Знаёмыя і сябры дзяцей таксама крадуць.

— заменіце замок, калі хтонебудзь з членаў сям'і згубіў ключы;

— калі незнаёмыя ходзяць у вашым пад'ездзе і пытаюцца пра яго жыхароў, патэлефануйце “02”.

### Тэорыя на практыцы

Вось што было з тымі, хто парушаў парады:

У сакавіку ў кватэру на першым паверсе, што па Вялікім Гасцінцы, прабраліся невядомыя. Яны ўкралі асабістыя рэчы і прадукты харчавання.

У верасні мінулага года з дома па вуліцы Вілейскай выкралі залатыя вырабы на вялікую суму. А ключы злачынцы знайшлі ў пуні.

У жніўні 2001 года ў Радашкавічах цыганы ўкралі ў пенсіянеркі 700 долараў. Яна забылася зачыніць дзверы, калі пайшла працаваць на агарод.

У студзені 2002 года пасля сумеснага распіцця напіткаў раней асуджаны 29-гадовы мужчына ўкраў у гаспадароў магнітафон. Пасля высветлілася, што ён у суседнім доме пакінуў без халадзільніка сваіх знаёмых.

Гэтыя злачынствы нераскрытыя.

### Ахоўная сігналізацыя

Работнікі міліцыі лічаць лепшым спосабам пазбегнуць крадзяжоў установку ахоўнай сігналізацыі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## «Будаўнік-2002» – крок у новае жыццё

**МАЛАДЗЕЧНА. 19 красавіка ў актавай зале ПТВ-21 прайшло прафесійнаарыентацыйнае мерапрыемства “Будаўнік-2002”. Прысутнічалі больш за 250 школьнікаў горада і раёна.**

Спачатку выступілі кіраўнікі вучылішча, якія расказалі пра гэтую навучальную ўстанову, спецыяльнасці, конкурс і ўмовы паступлення. Потым – прадстаўнікі будаўнічых арганізацый горада. Яны ўспаміналі, як самі рабілі выбар прафесіі, працавалі, падымаліся па службовай лесвіцы. Усе яны згодныя з тым, што кваліфікаваны дырэктар – гэта той, хто пачынаў вучобу з вучылішча.

Свае паслугі прапанавалі і работнікі цэнтра занятасці. Расказвае галоўны спецыяліст па прафарыентацыі **Надзея Булкіна**:

— Гэта ўжо не першае мерапрыемства, якое мы праводзім. Мы на працягу ўсяго года наведваем школы горада і раёна, дзе расказваем пра розныя прафесіі, іх актуальнасць і перспектывы. Сёння падрыхтавалі інфармацыйныя лісткі, у якіх падрабязна асвятлілі працу цесляра, майстра апрацоўчай работы, муляра, печніка і электрагазазваршчыка. Прапануем звесткі пра усе сярэднія спецыяльныя навучальныя установы. Зрабілі экскурсію па майстэрнях вучылішча.

Прысутнічала і псіхолаг цэнтра абслугоўвання сям'і і дзяцей **Тамара Стасілевіч**, якая адказвала на разнастайныя пытанні абітурыентаў – ад зарплаты цесляра да найбольш прэстыжнай прафесіі.

— Я стараюся арыентаваць школьнікаў на тое, што трэба атрымаць адукацыю. І не важна, з якой прыступкі пачнеш. Многія вучні не ведаюць, кім быць, а нашы тэсты малююць не толькі эмацыянальны партрэт, але і выяўляюць здольнасці. Шчырыя гутаркі дапамагаюць перамагчы страх і няўпэўненасць абітурыентаў.

Культурнае жыццё ПТВ таксама не засталося без увагі. Выступіў удзельнік і пераможца абласных і рэгіянальных фестываляў, ансамбль песні і танца вучылішча. А пераможца гарадскога і абласнога конкурсу КВЗ каманда ПТВ-21 паказала ўрывак з дамашняга задання “Ці лёгка быць маладым?”.

Пасля нехта з вучняў гаварыў, што лепш яшчэ адпачыць у адзінаццатым класе, а для некаторых, напрыклад, для **Тацproperты Барадзіной** з СШ №2, прафарыентацыя сапраўды адбылася.

— Добра, што прыйшла. Я раней сумнявалася, ці трэба сюды на повара-кандытара ісці. Цяпер цвёрда вырашыла, што паступлю толькі ў гэтае ПТВ.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



■ НАША МАРКА

## Медалі «Каларыта»

МАЛАДЗЕЧНА. 2 залатыя медалі прывезлі з міжнароднай выстаўкі “Віны і напіткі”, якая прайшла нядаўна ў Мінску, работнікі прадпрыемства “Каларыт”. Імі ўдастоеныя пітная вада “Элітная” і мінеральная вада “Геляноўская-2”. Прадукцыя другога маладзечанскага прадпрыемства – мінеральная вада піўзавода “Маладзечанская” – таксама была заўважаная журы конкурсу і атрымала сярэбраны медаль. Такой самай сярэбранай узнагароды удастоеная і мінеральная вада “Дарыда”. Калі мінеральную ваду і іншыя газіраваныя напіткі, якія выпускаюцца “Каларытам”, на рынку Беларусі дастаткова вядомыя, то ачышчаная пітная вада з'явілася летась.

3 верасня мінулага года на прадпрыемстве “Каларыт” укаранёная новая шматступенная тэхналогія высакаякаснай ачысткі пітной негазіраванай вады. У ёй акрамя вядомых традыцыйных спосабаў ачысткі выкарыстоўваецца амерыканская ўстаноўка, дзеянне якой заснаванае на ўласцівасці затрымліваць усе прымесі на малекулярным узроўні. Асноўны элемент такой сістэмы – мембрана. Вада, якую трэба ачысціць, падаецца на мембрану пад ціскам 16 атмасфер. Праз мембрану “працiскваюцца“ толькі чыстыя малекулы вады. А малекулы распушчаных соляў, цяжкіх металаў, бактэрыі і вірусы застаюцца ў так званым “расоле“. Расол выліваецца ў каналізацыю або можа быць выкарыстаны ў тэхнічных мэтах. Са 100 літраў вады, якая перапрацоўваецца, толькі 53 літры трапляе ў бутылі і становіцца “Элітнай“, а 43 літры ідуць на ўказаныя мэты. Кісларод і іншыя газы беспярашкодна праходзяць праз мембрану. Таму вада пасля такой працэдуры застаецца смачнай і нагадвае талую ваду ледніковую. Гэта значыць, захоўвае сваю натуральную прыродную структуру. Такая вада прыдатная дарослым і дзецям і для піцця, і для прыгатавання ежы.

Аб высокіх якасцях вады “Элітная“ гаворыць і той факт, што на двух міжнародных форумах, якія прайшлі ў канцы 2001 года яна таксама заваявала 2 залатыя медалі.

Ужо сёння пітная вада “Элітная“ прадаецца ў рэспубліцы ў ёмістасцях па 5 літраў. А ў Маладзечне, акрамя таго, яна пастаўляецца заказчыкам у офісы, на прадпрыемствы і прыватным асобам у ёмістасцях па 19 літраў. Дастаўляюць такую ваду і ў сталіцу. Дастаўка робіцца коштам “Каларыта“.

**Аддзел інфармацыі “РГ“.**

■ ДА ГАДАВІНЫ АВАРЫІ НА ЧАЭС

# Прырода ў Чарнобыльскай зоне

У першыя гады пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС на тэрыторыях моцнага забруджвання адбывалася збядненне экасістэм. Ля самой станцыі засох лес. У яе ваколіцах на 3 гады прапалі камары і некаторыя іншыя насякомыя, што аўтаматычна прывяло да часовага знікнення ластавак, драпежных птушак і іншых звёнаў харчовага ланцужка. У некалькі першых сезонаў была выяўленая мутацыя і змяненне лісця на дрэвах, пігментацыі ў насякомых. Былі выпадкі радыяцыйнага забруджвання рыб у вадаёмх. Рыба мела незвычайны колер, хварэла на печань, мела недаразвітую луску або лускі не было зусім.

Забруджаныя тэрыторыі былі адселеныя. Адсутнасць чалавека – станоўчы фактар для дзікай прыроды. Паступова ён стаў дамінуючым. Прырода ўступіла ў стадыю самааднаўлення. Меліярацыйныя сістэмы разбураюцца, зноў, як і раней, утвараюцца балаты. Палі зарастаюць дрэвамі і кустоўем – узрастае харчовая база для дзікіх жывёл. Сёння ў зоне прыжылася і распахова размнажаецца практычна ўся "Чырвоная кніга" РБ. Можна пабачыць незвычайна вялікія чароды буслоў, жураваў, чапляў. Добра сябе пачуваюць балотная чарапаха, змеяед, скапа. Прырода адпачывае ад чалавека.



Гомельская вобласць, Нараўлянскі раён. Тут жыць забаронена. Фота Уладзіміра БАЗАНА.

У зоне кардынальна змяніліся паводзіны шмат якіх відаў жывёл. Птушкі, якія раней палохаліся чалавека, цяпер гняздуюцца ў пакінутых вёсках. А зграі ваўкоў і дзікоў пры небяспецы ўцякаюць не ў лес, а набіваюцца ў пакінутыя дамы і хлявы ды затойваюцца там.

Варта зазначыць, што целы жывых істот у зоне перанасычаныя радыяцыяй. Згодна з доследамі, у мясе дзікоў яе ў дзесяткі і сотні разоў больш за норму. Але на знешнім выглядзе гэта амаль не адбіваецца. Натуральны адбор вельмі жорстка адбракоўвае тых асобін, якія хоць крыху адрозніваюцца ад іншых. Але праследжваюцца негатыўныя змяненні на клетачным узроўні. Найбольш церпяць палавыя клеткі са спадчыннай інфармацыяй. У што гэта выльецца, навукоўцы мяркуюць дазнацца, калі зменіцца не менш, як дзесятак пакаленняў жывых істот. Гэта дзеючая мадэль таго, што чакае ў будучым і нас. Але тут варта дадаць, што чалавек не мае механізму натуральнага адбору, таму і негатыўныя наступствы атамнай катастрофы ў выглядзе пагаршэння здароўя, асабліва ў дзяцей, выяўляюцца больш хутка.

Найбольш небяспечныя сёння для зоны пажары і гаспадарчая дзейнасць чалавека. Пры гэтым радыяцыя, якая засталася ў глебе, торфе, глеі, ствалах дрэў, уключаецца ў біялагічны кругазварот, зноў падымаецца ў паветра ці зноўцца ў ваду. Адбываецца "распаўзанне" небяспечнай зоны. Увогуле, аварыя на ЧАЭС – гэта трагедыя не толькі для чалавека, але і для прыроды. Беларусь ніколі не стане такой, якая яна была да 1986 года. Сёння мы бачым, што прырода ў стане часткова загаіць свае раны. Але што будзе далей, не ведае ніхто.

Гэтыя нататкі напісаныя па дадзеных выступленняў супрацоўнікаў Інстытута заалогіі пры Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і навукоўцаў, якія працуюць у Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведніку. Некаторыя факты раней у папулярным друку не агучваліся.

**Алег БЯГАНСКІ.**

## Што трэба ведаць пра радыенукліды?

**У выніку аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі асноўнымі радыенуклідамі, якія трапілі ў атмасферу, былі ёд-131, цэзій-137 і стронцый-90.**

Найбольш небяспечныя для чалавека цяпер радыенукліды цэзію і стронцыю, якія могуць трапляць у арганізм чалавека з прадуктамі харчавання.

### Цэзій-137

Ён замяняе ў арганізме калій і выклікае розныя біяхімічныя і фізіялагічныя парушэнні. Больш за ўсё калію знаходзіцца ў мышачнай тканцы. Цэзій-137 можа трапляць з прадуктамі харчавання, у асноўным, з мясам. Перыяд паўраспаду гэтага радыенукліду каля 30 год.

### Стронцый-90

Ён назапашваецца ў касцях, дзе замяняе нармальны элемент кальцый. Перыяд паўраспаду стронцыю складае 27,4 года. Стронцый-90 трапляе ў арганізм таксама праз прадукты харчавання. Стронцый цяжэй вывесці з арганізма за іншыя элементы. Стронцый-90, паступова назапашваецца ў касцях і апраменьвае касцявы мозг, паражае крыватворную сістэму. У выніку развіваецца анемія.

**Віктар БЕЛІК.**

## Чарнобыльская рана

**МАЛАДЗЕЧНА. 26 красавіка ў кінатэатры "Радзіма" пройдзе вечарына "Чарнобыльская рана", якая прысвечаная 16-й гадавіне чарнобыльскай аварыі.**

На сустрэчу запрасілі ліквідатараў аварыі, перасяленцаў і дзяцей, якія адчулі чарнобыльскі боль на сабе. Пасля афіцыйнай часткі планується прагляд кінафільма "Чарнобыльская рана". Пачатак вечарыны а 15-й гадзіне, уваход свабодны.

**Ірына РАБУШКА.**

# Уша і Маладачанка: нітрытаў менш, кіслароду больш

**МАЛАДЗЕЧНА. У пазамінулым нумары ў матэрыяле "Уша і Маладачанка. Пробы на чысціню" мы расказвалі пра стан вады маладзечанскіх рэчак па выніках восеньскага вывучэння сямі пробаў. 7 красавіка аўтар зрабіў аналагічнае даследаванне.**

Цяпер увага надавалася вывучэнню рэчышча і поймы вадатокаў. Акрамя гэтага, на ўваходзе каналізаванага рэчышча Маладачанкі ў межы горада ніжэй маста на шашы Маладзечна-Мінск узялі пробу вады з нумарам 0 для таго, каб лепш ацаніць працэсы, якія адбываюцца ў яе сярэднім цячэнні. Астатнія пробы, за выключэннем пробы 5, ўзялі ў тых жа месцах, што і ўвосень. Проба 5 адбіралася на правым узбярэжжы возера ў межах зоны адпачынку.

### Характарыстыка Маладачанкі

У межах пробы 0 даліна Маладачанкі ўяўляе сабой канал з бетоннымі адхонамі і дном. Сюды вышэй маста ўпадае адкрыты меліярацыйны канал і скідваецца вада з дзвюх закрытых дрэнажных сістэм. Глебы тут тарфяністыя і разорваюцца амаль да адхона канала. Хмызнякоў і дрэў абапал канала няма.

У межах пробы 1 даліна цалкам залужаная, ёсць астраўкі хмызнякоў, слядоў веснавых выпальванняў травы няма, што з'яўляецца станоўчым экалагічным фактарам. Аднак з-за пракладкі трубаправода частку хмызнякоў высеклі і месцамі пойма закіданая бытавым смеццем.

У месцы адбора пробы 4 найбольш дрэнны стан рачной даліны. З правага берага да самай рэчкі падыходзяць гароды, злева – разараныя сельскагаспадарчыя землі. Ёсць шматлікія выемкі торфу, якія ператварыліся амаль паўсюль у невялічкія сметнікі.

У параўнанні з восенню, стан вады амаль не змяніўся. Па ўсіх паказчыках вада здавальняючай якасці. Рака ўсё больш забруджваецца хімічнымі рэчывамі ад вытокаў да вусця. Хаця, напрыклад, па фасфатах ёсць ваганні, выкліканыя характарам рачной даліны.

### Характарыстыка Ушы

На ўваходзе ў горад даліна ракі цалкам разараная. Ніякіх біялагічных бар'ераў, якія б перашкаджалі трапленню хімічных рэчываў у раку з левабярэжжа не з'явілася. На працягу 2,5 км па правым беразе Ушы ідзе высокі насып грунтавой дарогі. Ён адсякае большасць забруджвання на гэтым участку. Ёсць толькі адзін канал меліярацыйнай сістэмы, які спрыяе перамяшчэнню забруджвання з тэрыторый правага ўзбярэжжа ў раку. Праблема для правага берага ракі – выпальванне травы ля маста на ўваходзе ў горад. Гэта не толькі знішчае лугавыя экасістэмы, але і спрыяе трапленню ў іх натрыю, магнію, калію і іншых рэчываў.

Галоўная змена, у параўнанні з асеннімі замерамі, – ва ўсіх пробах нармалізаваўся стан з нітрытамі. Больш стала ў вадзе і кіслароду.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ, студэнт 5 курса геафака БДУ.**

# Афганістан навучыў нічога не баяцца

**ВІЛЕЙКА. Са студзеня 1994 года Ігар Альшук працуе ў пажарнай часці. Перайшоў у пажарныя, бо тады рамонтны завод станавіўся на калені. Цяпер Ігар Альшук – камандзір аддзялення.**

Памятае свой першы пажар. Гарэў дом, які выратавалі. Падчас работы зведаў шмат складанасцяў. Былі чалавечыя ахвяры.

— Афган даў мне добрую жыццёвую загартоўку. Там смерцяў нагледзеўся і нічога цяпер не баюся.

Час, які правёў у Афганістане Ігар Альшук памятае дакладна: 1 год, 6 месяцаў і 5 дзён. Да гэтага былі тры месяцы "вучэбкі" ў Фергане. Там вучылі страляць, скакаць з парашутам. У Ігара было 14 скачкоў. Асалоду ад палёту пачаў адчуваць дзесьці пасля трэцяга. Да гэтага быў толькі страх.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Ігар Альшук. Нарадзіўся 3 сакавіка 1968 года ў Вілейцы. Вучыўся ў сярэдняй школе №2. У 1986 годзе скончыў вілейскае СПТВ-200. Армейскія гады прыпалі на Афганістан. 5 год адпрацаваў на Вілейскім рамонтным заводзе. Жонка Ларыса, сыны Жэня і Валодзя.**

Калі прызывалі, то "купцы" пыталіся, ці хочаш ісці служыць у паветрана-дэсантных войсках у Афганістане. Калі нехта хацеў адмовіцца, то пагражалі накіраваць у Чарнобыль. 1986 год тады быў. Усе прызыўнікі паехалі ў Фергану.

З роты, дзе служыў Ігар, палягло шмат хлопцаў. Але дэзерцірства, як і дзедаўшчыны, не было, бо трымаліся адзін за аднаго.

У Афганістане Ігар Альшук узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі". На машыне вывез параненых хлопцаў з-пад абстрэлу.

— Я наогул цаню ўзаемавыручку.

Вядома, што служба ў Афганістане "ціснула" на маладую псіхіку. На пытанне, як салдаты расслабляліся, Ігар жартам адказаў, што яны там і не напружваліся.

– Афганцы да нас нармальна ставіліся. Жанчыны без паранджы хадзілі. Рыжыя такія! Прыпамінае канцэрт **Разенбаума**, прыезд **Вікцюка**. Скончыў армейскую службу на Далёкім Усходзе. Дзве гадзіны лёту ад Афгана. А на дэмбель адтуль 7 сутак ехаў.

Вярнуўся да мірнага жыцця. Ажаніўся. Абодва сыны хочуць быць пажарнымі. Давядзецца ім тады ў армію ісці. Бацькоўскае сэрца Ігара гэтага не прымае. Яшчэ кажа, што ён не ўражлівы. І нават не памятае, як доўгі час пасля арміі крычаў у сне.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Пераможны склад замянілі

**Маладзечна-2000 – Нёман (Гродна) 0:1**

21 красавіка. Поле – 3. 1500 гледачоў. Білет – 2500.

Суддзя – В. Жук (Мінск)

Гол: Доля (76)

Папярэджанні: Азаронак (78)




Запасныя: Сцепановіч, Сысой, Сідарэнка, Тартоўскі, Муравейнікаў.

Лепшы па версіі "РГ": Міхалёў.

## Стартавы склад

Змены пасля пераможнай гульні з "Зоркай" у складзе маладзечанцаў усё ж адбыліся. **Карпіленка** заняў сваё месца ў цэнтры паўабароны, а **Смірноў** застаўся на лаўцы запасных. Траўма **Тартоўскага** дазволіла выйсці з першых хвілін **Рапецкаму**, а малады маладзечанец **Сяргей Дрозд** увогуле захварэў і ў аснове з'явіўся **Сяргей Дараховіч**.

## Турчыновіч прыехаў

У мінулым сезоне "Маладзечна-2000" з гродзенцамі гуляла не вельмі ўдала. Былі два прайграныя матчы, і два разы сапернік забіваў па 3 безадказныя галы. Цікава, што "Нёман" вырываў перамогу абодва разы ў заключным адрэзку матча. Як і летась, гульню абслугоўваў **Вадзім Жук**. У Маладзечна вярнуўся Андрэй Турчыновіч, які адгуляў увесь матч у складзе гродзенцаў. Напачатку гульні ён выйграў барацьбу ў **Бычкоўскага** і адправіў мяч у сетку варот **Рубацкага**. Але суддзя ўгледзеў парушэнне правілаў з боку экс-маладзечанскага. Увогуле, Андрэй стараўся і выглядаў нядрэнна. А хтосьці з балельшчыкаў адзначыў:

— Турчыновіч бегае больш, чым раней за "Маладзечна". Відаць, у "Нёмане" плацяць лепш.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**21 красавіка. Маладзечна-2000 – Нёман. У пагоні за сапернікам Сяргей Дараховіч (у цёмнай форме).**

## Тры небяспечныя моманты за гульню

Два разы выйсці наперад маглі маладзечанцы. Сяргей Дараховіч добрым пасам вывеў сам-насам з варатаром гасцей **Сулімай Макрыцкага**, але нападаючы не змог перайграць галкіпера. Потым Рапецкага збілі недалёка ад штрафной. **Міхалёў** навесіў, але **Мігас** не трапіў па мячы з добрай пазіцыі. Гродзенцы адказалі ўдарам у перакладзіну – **Мазалоўскі** добра стрэліў з-за межаў штрафной.

## Гол

Зыход сустрэчы вырашыў футбаліст, які выйшаў на замену па ходзе сустрэчы. **Дзмітрый Доля** хацеў падаць у штрафную, але мяч трапіў у далёкі вугал варот маладзечанцаў.

## Каментарый

**Людас Румбуціс**, галоўны трэнер "Маладзечна-2000":

— Сёння не сапернік перамог, а мы прайгралі. Такія галы вельмі рэдкія. На жаль, сёння такі гол заляцеў у нашыя вароты. Футбалісты стараліся, гэта было відаць. Вось рэалізацыя галявых момантаў кульгала на абедзве нагі.

— Што скажаце пра гульню Дараховіча?

— Хвілін 15-20 Сяргей не мог знайсці свайго месца на полі, а потым згуляў адносна нармальна. Усё ж такі "Нёман" не меў увогуле момантаў, каб перамагаць. Нават удар у перакладзіну – гэта паўмомант. Да і мы нічым не вылучаліся.

**Сяргей Саладоўнікаў**, галоўны трэнер "Нёмана":

— Першыя 20 хвілін у нас была поўная перавага. Было некалькі момантаў, забілі гол. Мне здаецца, што там усё было па правілах. Потым ініцыятыва перайшла да маладзечанцаў. Яны арганізавалі выхад адзін на адзін, але нас выратаваў Суліма.

— Некалькі слоў, калі ласка, пра Турчыновіча.

— Андрэй – футбаліст асноўнага склада. Мне прыемна з ім працаваць. Шкада, што ён да нас позна прыйшоў і не набраў належных фізічных кандыцый. Сёння яго трэба было мяняць хвілін за 20 да канца, але ў нас цяпер недахоп нападаючых.

Шахцёр (Салігорск) – Белшына (Бабруйск) 1:0, Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Лакаматыў-96 (Віцебск) 3:1, Дынама (Мінск) – Гомель 1:0, Тарпеда (Жодзіна) – БАТЭ (Барысаў) 0:0, Дынама (Брэст) – Славія (Мазыр) 0:0, Тарпеда-МАЗ (Мінск) – Нёман (Гродна) 1:0. Гомель – Дынама (Б) 3:0, Белшына – Дынама (М) 2:1, Лакаматыў-96 – Тарпеда 0:1, БАТЭ – Шахцёр 2:0, Славія – Тарпеда-МАЗ 0:2, Зорка-ВА-БДУ – Днепр-Трансмаш 0:0.

1. Тарпеда-МАЗ ............... 6
2. Днепр-Трансмаш ......... 4
3. БАТЭ .......................... 4
4. Тарпеда ....................... 4
5. Гомель ......................... 3
6. Белшына ....................... 3
7. Дынама (М) ................. 3
8. Маладзечна-2000 ......... 3
9. Нёман .......................... 3
10. Шахцёр ...................... 3
11. Зорка-ВА-БДУ ........... 1
12. Славія ........................ 1
13. Дынама (Б) ................ 1
14. Лакаматыў-96 ............ 0

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ

**Сяргей Дрозд** стаў пятым выхаванцам маладзечанскай ДЮСШ (школьны трэнер **Андрэй Радкевіч**) у цяперашнім складзе "Маладзечна-2000". Цікава, што гады нараджэння **Сяргея Дараховіча, Віталя Макрыцкага, Дзяніса Смірнова, Андрэя Лявончыка** і Сяргея Дразда ідуць адзін за адным без перапынкаў. Гэта азначае, што цяпер ДЮСШ штогод рыхтуе па адным футбалісце для вышэйшай лігі. Так што балельшчыкі маюць поўнае права чакаць новых карэнных маладзечанцаў на "паляне" гарадскога стадыёна. Хлопцы, відаць, і самі разумеюць простую ісціну: для іх гульнявога росту створаныя амаль усе неабходныя ўмовы. Цяпер той час, калі на Маладзечаншчыне можна як след загуляць у футбол, зрабіць кар'еру (прыклад **Уладзіміра Карыцькі** ва ўсіх перад вачыма), а гэта значыць, зарабляць у будучым добрыя грошы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ

**17.04 (Беразінскае) Маладзечна-2000 – Маладзечна-2000 (дубль) 3:5 (0:5)**

Галы: Акуліч, Рапецкі, Макрыцкі; Грыхуцік, Дараховіч, Карпіленка, Млечка

Яшчэ адзін гол у складзе дублёраў забіў футбаліст, які прыязджаў на прагляд з Украіны.

■ РЭГУЛЯРНЫ ЧЭМПІЯНАТ

**11.04 Зорка-ВА-БДУ (дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 1:0 (1:0)**

Гол: (9)

**20.04 Маладзечна-2000 (дубль) – Нёман (дубль) 2:1 (1:1)**

Галы: Грыхуцік (24), Альховік (63); (42)

■ СМАРГОНЬ

Унесены ў заяўку **Тарас Шамшорык, вядомы сваімі** выступленнямі за многія каманды вышэйшай лігі, у першую чаргу, за маладзечанскі клуб, дзе ён за сезоны'98 і '99 правёў 30 матчаў і забіў 7 галоў.

З большасцю гульцоў кантракты заключаныя на адзін год. І ёсць футбалісты, якія яшчэ два гады будуць звязаныя з клубам. Гэта **Сяргей Шляхавой, Валерый Курак, Уладзіслаў Дукса, Сяргей Карабінскі, Андрэй Шаблінскі**.

■ ЗАБУДОВА

У складзе з'явіўся нападаючы **Максім Філіпаў** (1980), які ў 2000 годзе ўжо быў сярод чысцінцаў (2 матчы, 2 галы), а потым крыху пагуляў у вышэйшай лізе за наваполацкі "Нафтан-Дэвон". Таксама на праглядзе нападаючы **Раман Воўкаў** (1982) са сталічнага "Лакаматыва" (Д2).

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

МАЛАДЗЕЧНА. 1 мая пройдзе традыцыйнае свята бегу. Сюды ўключаны трыдцыйны рэспубліканскі марафон.

У 10 гадзін раніцы дзеці да 14 год змогуць выйсці на старт на дыстанцыях у 2 км. Усе жадаючыя змогуць прабегчы 5 км. Гэтыя дыстанцыі будуць пракладзеныя ў гарадскім парку. Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 9 гадзін ля палітэхнікума. Аб 11-й гадзіне – урачыстае адкрыццё марафона. Удзельнікі сядуць у аўтобус і паедуць да пункта старту ў Крыніцу. Маршрут ранейшы: Крыніца-Радашкавічы-Чысць. Мяркуецца ўдзел каля пяцідзесяці спартсменаў. Таксама запрашаюцца ўсе жадаючыя.

Нагадаем ранейшых пераможцаў Маладзечанскага марафону.

| | | |
|---|---|---|
| 1998 | Галіна Кавалёва | Сяргей Свірыдзёнак (Маладзечна) |
| 1999 | Галіна Кавалёва | Іван Саковіч (Мядзел) |
| 2000 | Галіна Кавалёва | Андрэй Паспелаў (Мядзел) |
| 2001 | Галіна Кавалёва | Дзмітрый Було (Капыль) |

■ БОКС

АСТРАВЕЦ. Выхаванец ДЮСШ (трэнер **Аляксей Маргуж**) **Віталь Бандарэнка** заняў трэцяе месца ў сваёй вагавой катэгорыі на Алімпійскіх днях моладзі (хлопцы 1985-87 г.н.), які праходзілі ў Светлагорску. Зараз Віталь выступае на турніры ў Варшаве.

Яшчэ двое астраўчан – **Эдуард Антановіч** (вага да 51 кг, 1988 г.н.) і **Яўген Іваніцкі** (42 кг, 1987 г.н.) – былі трэція на рэспубліканскім турніры ў Гомелі.

■ ФУТБОЛ

На мінулым тыдні ў Венгрыі беларускія нацыянальная і маладзёжная зборныя правялі кантрольныя матчы. Адзначаем дэбюты нашых землякоў. У складзе "першай" каманды на замену на 80-й хвіліне выйшаў выхаванец маладзечанскай ДЮСШ **Уладзіміра Карыцькі**. У складзе "маладзёжкі" з 46-й хвіліны гуляў вызхаванец смаргонскага футбола **Алег Попель**, які цяпер выступае за дубль маскоўскага "Лакаматыва".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Пенальці напрыканцы матча

**20.04 Ведрыч-97 (Рэчыца) – Смаргонь 1:0 (0:0)**

Суддзя: Дайлід (Брэст)

Гол: Хіжняк (85-пен)

Склад: Шэлест, Іваноў, Давідовіч, Курак, Байда (Кошаль, 56), Ваўчок, Дукса, Сілін, Шамшорык, Шаблінскі (Шэўчык, 75), Шпакоўскі

Арбітр **Канстанцін Дайлід** павінен быў на ўсе сто працэнтаў быць упэўненым у парушэнні правілаў у штрафной смаргонцаў, каб даць пенальці на апошніх хвілінах матча. Галоўны трэнер гасцей **Андрэй Майсейчанка** апісаў сітуацыю так: "Ішоў прастрэл уздоўж лініі штрафной, мяч ад купіны адскочыў да Іванова, трапіўшы яму ў прыціснутую да тулава руку. Калі і была гульня рукой, то не наўмысная". У цэлым гэта быў матч аднолькавых сапернікаў. Да перапынку перавагай валодалі гаспадары, у другім тайме больш актыўна загулялі смаргонцы. Меў момант **Шпакоўскі**, але не здолеў перакінуць мяч праз галкіпера, які далёка пайшоў з варот.

Нафтан (Наваполацк) – Камунальнік (Слонім) 4:0, ЗЛіН (Гомель) – Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) 1:3, Бяроза – Ліда 1:0, Асіповічы – Граніт (Мікашэвічы) 1:3, Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Нёман (Масты) 3:0, Хімік (Светлагорск) – Дынама-Юні (Мінск) 1:2, Лакаматыў (Мінск) – Дарыда (Мінскі раён) 1:1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Каляндар «Смаргоні» у 1-м крузе

27.04. ЗЛіН (дома), 05.05. Бяроза (у гасцях), 12.05. Асіповічы (д), 19.05. Тарпеда-Кадзіна (г), 25.05. Хімік (д), 01.06. Лакаматыў (г), 05.06. Дарыда (д), 09.06. Дынама-Юні (г), 15.06. Нёман (д), 19.06. Граніт (г), 23.06. Ліда (д), 29.06. Днепр-ДЮСШ-1 (г), 03.07. Камунальнік (г), 07.07. Нафтан (д).

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

# З Маладзечна ў Еўропу

**МАЛАДЗЕЧНА. Крыкі балельшчыкаў, парады трэнераў, хваляванне хлопцаў, спрэчкі паміж суддзямі – усё гэта было на першынстве Беларусі па грэка-рымскай барацьбе. Яно праходзіла з 18 па 20 красавіка ў зале барацьбы ДЮСШ.**

94 хлопцы 1985-86 г. н. спаборнічалі ў 10 вагавых катэгорыях. Расказвае дзяржаўны трэнер нацыянальнага камітэта па грэка-рымскай барацьбе Аляксандр Баравуля:

— Гэты турнір адборачны, таму што лепшыя возьмуць удзел у першынстве Еўропы 5-7 чэрвеня ў Адэсе. Акрамя таго, яны паспрабуюць сябе на юнацкіх гульнях краін СНД, якія ўпершыню будуць праводзіцца ў Маскве. Хацелася б адабраць таленавітых і здольных хлопцаў для будучага рэзерву Беларусі. Кожны чакаў ад гэтага першынства перамогі, як і суддзя з Віцебска Аляксандр Серадохаў:

— Сёння выступае мой вучань Дзіма Ганушчанка (63 кг). Чакаю, што паедзем дадому чэмпіёнамі. У вашым горадзе я часта бываю, служыў тут.

У камандным заліку перамагла каманда Гродзенскай вобласці, а прызёрамі сталі каманды з Мінскай вобласці і Мінска.

У асабістым заліку пераможцамі сталі:

да 42 кг – Дзяніс Кулага (Гомель), да 46 кг – Аляксандр Шэлесны (Гродна), да 50 кг – Алег Максіменка (Віцебск), да 54 кг – Андрэй Дземідовіч (Пухавічы), да 58 кг – Павел Харашэвіч (Маладзечна), да 63 кг – Валерый Палянскі (г/п Бярозаўка Гродзенскай вобласці), да 69 кг – Яўген Собаль (Барысаў), да 76 кг – Віталь Тараховіч (Мінск), да 85 кг – Павел Башлыкоў (Гомель), да 100 кг – Юрый Воўкаў (Мінск).

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**27.04 16-00 Смаргонь – ЗЛІН (Гомель)**

**28.04 Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000**

+5=5-8 23-34.Летась 2:4 (Турчыновіч, аўтагол) на выездзе і 2:1 (Макрыцкі, Сідарэнка) дома.

## Анонс

**26-28.04 Гарадкі Маладзечна**

Заключныя дні спаборніцтваў другога этапу Кубка Еўропы.

Пачатак а 9-й гадзіне. Закрыццё ў нядзелю а 15-й гадзіне

# ВІНШАВАНКІ

**Галіне Геранімаўне і Уладзіміру Аляксандравічу Захарэўскім**

Дарагія мама і тата! Віншую вас з фарфоравым вяселлем!
Пусть небо будет чистое над вами,
Пусть будет жизнь
по-доброму светла.
Живите, окруженные друзьями
И всех вам благ, здоровья и тепла!
*Ваша дачка Надзея.*

**В. І. Місун** з Вілейкі! В день рожденья для тебя светит солнышко любя. Пусть наполнится твой дом счастьем, радостью, теплом! *Сяброўкі.*

Віншуем з днём нараджэння любімага ўнука **Сяргея Люцко**! Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе. *Бабуля, дзядуля.*

З 10-годдзем віншуем **Сяргея Люцко**! Жадаем здароўя, добра вучыцца. *Хросныя бацькі.*

Віншуем участковую медсястру **Наталлю Струкаву** з юбілеем! Жадаем здароўя, шчасця. *Дзякуем за дабрыню! Бацькі.*

**Ірына і Аляксандр Сіваграковы**, віншую з гадавінай! Жывіце дружна, адзін аднаго кахайце! *Наташа Пяткевіч.*

З днём нараджэння **Галіну Баляславаўну Лазоўскую**! Жадаем шчасця, поспехаў, удач! *Удзячныя слухачы радыё "Маладзечна".*

Любімую дачушку **Анечку Жабко** з днём нараджэння! Жадаем табе поспехаў, шчасця, радасці і верных сяброў. *Мама і тата.*

Любімую сястрычку **Зёмку** з днём нараджэння! Жадаю шчасця, здароўя, светлага і моцнага кахання. *Твая сястрычка Наташка.*

Віншуем любімага **Сярожу Люцко** з 10-годдзем! Здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, удачы. *Бацькі, брацік Дзімка.*

Віншуем з 18-годдзем дарагую дачушку **Марыну Страх**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага. *Мама і бабуля.*

Віншуем любую сяброўку **Вольгу Стрэж** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, кахання. *Святлана, Іна.*

Сардэчна віншуем **Ядвігу Антонаўну Чаеўскую** з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, удачы, кахання, прыгажосці. *Ніна, Жэня.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога **Жэню Радзевіча**! Жадаем здароўя, поспехаў у жыцці, надзейных сяброў. *Тата, мама і сястрычкі.*

**Ларыса Яўгенаўна Матукевіч**, віншую цябе з днём нараджэння! Жадаю здароўя, шчасця, поспехаў у рабоце. *Каця.*

Дарагая **Святлана Уладзіміраўна Крупенчык**! Віншуем з юбілеем! Здароўя, шчасця і дабра жадаем мы табе заўсёды! *Сям'я Паплёўка.*

■ НАША ПОШТА

# У пятніцу першай чытаю «Рэгіянальную газету»

Калі запоўніла купон з віншаванкай, не змагла не напісаць некалькі слоў падзякі вам. Дзесьці каля двух год таму ў кіёску выпадкова купіла ваша выданне і з таго часу стала пастаяннай чытачкай. У мяне дзве любімыя газеты: "Рэгіянальная" і "Камсамолка" (хаця выпісваем і купляем не толькі гэтыя выданні). Апошні час заўважаю, што па пятніцах першай прачытваю "Рэгіянальную газету" і толькі потым бяру ў рукі "таўстушку".

Вы – малайцы! Неяк усё прадумана, дынамічна, аператыўна, з гумарам. У сілу сваёй прафесіі (я – урач-тэрапеўт) больш за ўсё цікаўлюся публікацыямі пра медыцыну. Падабаюцца рубрыкі "Грамадства", "Адна зямля", "Базарны дзень". Старэйшы сын у захапленні ад "Сектара спорту". Ну, а "Нявыдуманыя гісторыі" і "Хавайся ў бульбу" я чытаю вечарам уголас для ўсёй сям'і. Рагоча нават малодшы сын, якому 2,5 года (зразумець, чаму смяюцца тата, мама і брат ён не можа, але рагоча разам з намі, напэўна, з нас жа).

І яшчэ. Я скептычна стаўлюся да ўсялякіх гараскопаў, прыкмет, не звяртаю на іх увагу. Але... Не так даўно маёй сястры пагражала непрывамоцнае скарачэнне на рабоце. Я зусім выпадкова прачытала напярэдадні гараскоп для яе знака. Там чорным па белым было напісана: "Не перажывайце, вас не звольняць. Вы выйдзеце пераможцай з сітуацыі, што склалася"... Хутка так усё і атрымалася, як было напісана ў вас. З таго часу я чытаю і гэтую рубрыку, прычым уважліва і толькі ў вашай газеце.

Якія будуць пажаданні? Хацелася б бачыць што-небудзь накшталт лікбезу па прававых пытаннях, па Працоўным кодэксе. Нешта накшталт пытання чытачоў і адказу юрыста. Не ў кожнага ў наш час знойдуцца грошы і магчымасць звярнуцца да грамотнага юрыста.

Можа, і несвоечасова гэта гучыць, але мала стала публікацый пра ветэранаў Вялікай айчыннай вайны. Памятайце фразу: "Калі мы на вайну забудземся, зноў прыйдзе яна". Я мяркую па сваіх дзецях: мала яны ведаюць пра тую вайну, усё забываецца, толькі ў свята ўспамінаем. Два мае дзяды, дзед майго мужа ваявалі. Мы і сына старэйшага назвалі Сяргеем у гонар яго прадзедаў, якія загінулі. Я нарадзілася і вырасла ў Маладзечне, скончыла СШ №1, дзе быў музей баявой славы (ён і цяпер ёсць). Яшчэ са школы (а я яе скончыла ў 1988 годзе) перапісваюся і сустракаюся з ветэранамі 31 гвардзейскай стралковай дывізіі да гэтага часу. Сярод іх ёсць столькі малых душой людзей (такія, як І. Хасанаў, П. Кузьменка, А. Цярэнцьеў, В. Раждзественская – мама таго самага Роберта Раждзественскага).

Ваша газета любімая і чытальная. Жадаю вашай камандзе далейшых поспехаў і каб колькасць вашых чытачоў расла з кожнай падпісной кампаніяй.

**З павагай, Наталля ЛЮЦКО, п. Чысць.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно



Прывітанне, шаноўныя! Другі раз запар правільны адказ даў толькі Юрый Юхневіч: зала ў рэстаране засцеленая дываном, на якім стаяць нізенькія японскія столікі, каля якіх зручна сядзець, ляжаць на падлозе (паваляцца). Для тых наведвальнікаў, хто хоча сядзець, як звычайна, на стуле, каля некаторых столікаў зробленыя паглыбленні – ямкі, у якія наведвальнікі могуць апусціць ногі. Ямкі у рэстаране – для аматараў сядзець на стулах, а паваляцца пойдуць сапраўдныя прыхільнікі японскіх традыцый.

Наступнае заданне. Па словах жыхароў БіраБіджана, мясцовыя яўрэі падзяляюцца на дзве катэгорыі. Першыя збіраюцца з'ехаць ў Ізраіль і вывучаюць іўрыт, другія – тыя, хто вырашыў застацца і вывучае...

Пытанне: якую мову вывучаюць яўрэі, якія вырашылі застацца?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 30 красавіка, 16-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Укралі машыну

**19.04.2002 года каля 10-55 хвілін ад калгаснага рынку з вуліцы Л. Талстога ў Маладзечне ўкралі а/м W-Пасат, 1990 г. в., чырвонага колеру, універсал, дзяржнумар 13-23 САВ. Сігналізацыі ў машыне не было.**

Да ўсіх, хто што-небудзь ведае, просьба патэлефанаваць у Маладзечне 74838.

**Аляксандр РУДНІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Красавік – май**

**Вялікая зала**

26 – 28 **"Гісторыя рыцара"**, ЗША, 16-00, 21-20 (27 і 28 красавіка пасля сеанса 16-00 – дыскатэка)

**"Мулен Руж"**, ЗША, меладрама 19-00

29 красавіка – 5 мая **"Пацучыныя скачкі"**, ЗША, камедыя 18-30, 21-00

**"Шрэк"**, ЗША 16-00

**Для дзяцей**

28 – **"Прыгоды дыназаўрыка Барні"** 13-00

1 мая – **"Бетховен-4"** 13-00

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Тушаная гароднiна ў кольцы з рысу

**400 г морквы, 500 г стручковай фасолі ці зялёнага гарошку, 2 шклянкі рысу, соль, алей, часнок, чорны перац.**

Рыс патушыць у алеі да празрыстасці, заліць падсоленай вадой і паставіць на слабы агонь. Гарошак або фасолю і моркву (можна дадаць і іншую гародніну: кабачкі, цвятную капусту) тушыць у алеі. У канцы тушэння дадаць часнок. Гатовы рыс пасыпаць чорным перцам, выкласці ў кольцападобную металічную форму з адтулінай пасярэдзіне і перакуліць на плоскае блюда. Сярэдзіну кольца запоўніць сумессю тушанай гародніны.



## Салата «Пяшчота»

**3 бананы, 1 (250 г) пачак крабавых палачак, 1 бляшанка кансерваванай кукурузы, 3 вараныя яйкі, 2 марынаваныя агуркі, 1 цыбуліна (лепш салодкая), 300 г сыру, 4-5 зубкоў часнаку, маянэз.**

Абабраныя бананы дробна парэзаць, дадаць дробна парэзаныя крабавыя палачкі, цыбулю, яйкі, агуркі і надзерты сыр. Перамяшаць, дадаць кукурузу, здробненыя зубкі часнаку, пасаліць, заправіць маянэзам.

■ ІМЯНІНЫ

**26 красавіка**
**Праваслаўныя**: Артамона.
**Каталіцкія**: Мажэны, Марыі.
**27 красавіка**
**Праваслаўныя**: Антона, Астапа.
**Каталіцкія**: Зіты, Тэафіла.
**28 красавіка**
**Праваслаўныя**: Васілісы, Анастасія, Андрэя, Дзяменція, Лук'яна, Трафіма.
**Каталіцкія**: Валерыі, Паўла, Пятра.
**29 красавіка**
**Праваслаўныя**: Агапіі, Васілісы, Галіны, Ірыны, Нікі, Фядоры, Леаніда.
**Каталіцкія**: Багуслава, Роберта.
**30 красавіка**
**Праваслаўныя**: Андрыяна, Акакія, Аляксандра, Ананіі, Засімы, Сямёна.
**Каталіцкія**: Катарыны, Марыяна.

# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына 41/181/86, в/а, без шк/зв., пазнаёміцца з жанчынай, якая стамілася ад адзіноты. Маладзечна-7, п/п ХІІ-ВН №642533.

Сімпатычная стройная жанчына пазнаёміцца з інтэлігентным мужчынам 32-42 год для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0743905.

Маладая сімпатычная жанчына, 27 год, пазнаёміцца з добрым, надзейным мужчынам да 40 год. Смаргонь, д/з КН 0685376.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 17**

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Вы абароненыя ад радыяцыі?



**Леў Смолік, повар, Валожын:**

— Мяркую, што не. Мабыць, яе зусім ужо няма. Даўно нічога новага не пісалі пра гэта.



**Зінаіда Рызгунская, загадчыца аддзела радыяцыйнай гігіены Валожынскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі:**

— Не. Малыя ці вялікія дозы радыяцыі ўсё адно калі-небудзь праявяцца. Пасля Чарнобыля ў маёй дачкі павялічылася шчытападобная залоза.



**Таццяна Ляшкевіч, дзяжурная пульта кіравання аддзялення "Аховы", Валожын:**

— Ніхто не абаронены. Маёй дачцэ рабілі аперацыю, таму што пачала расці кіста. Гаварылі, што гэта з-за радыяцыі. Хаця Валожын не самы брудны горад. Безумоўна, калі б былі сродкі на якаснае лячэнне і чыстыя прадукты, мы адчувалі б сябе лепш.



**Аляксандр Жаўняровіч, машыніст халадзільнай устаноўкі, Маладзечна:**

— Толькі дух цела абароніць ад розных хвароб. Пасля Чарнобыля беларусы замучаныя радыяцыяй. Ды яшчэ зарплату не даюць і пенсійны ўзрост павялічваюць. Але нічога, пратрымаемся як-небудзь. Вось я ўжо ад мяса адмовіўся, таму што рыба карысней.

**Фотаапытанне правяла Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ КРЫЖАВАНКА

## Перакладзіце на беларускую мову

**Па гарызанталях:** 5. Отчет. 8. Остановка. 9. Ворота. 12. Запечек. 13. Опара. 14. Алоэ. 17. Щепка. 18. Падеж, мор. 21. Околица. 22. Приложение. 25. Лай. 26. Начало. 27. Острога. 30. Единственный сын. 31. Круглая жестяная коробка. 32. Подготовка.

**По вертыкалях:** 1. Ловкость. 2. Поворот, излом (реки, дороги). 3. Одежда. 4. Щенок. 6. Кадка с крышкой. 7. Чай луговой. 10. Мастерство. 11. Неутомимость. 15. Чувство. 16. Отроек. 19. Согласие, лад. 20. Наводнение. 23. Селитра. 24. Черешок (у листа). 28. Избыток. 29. Крышка.



### Адказы на крыжаванку, апублікаваную ў №16

**Па гарызанталях:** 2. Наказ. 5. Памер. 9. Мука. 10. Удод. 11. Рыбак. 12. Ганак. 13. Зара. 15. Ода. 16. Апал. 19. Арол. 20. Рута. 22. Кабала. 23. Абажур. 24. Папас. 27. Нататка. 29. Катарга. 31. Карта. 32. Фаланга. 35. Ладанка. 39. Замша. 42. Карэта. 44. Адажыо. 45. Акот. 6. Кіпа. 47. Рака. 50. Эфа. 51. Жаба. 53. Рынак. 54. Лічба. 55. Руда. 56. Неон. 57. Памор. 58. Дэкор.

**Па вертыкалях:** 1. Муза. 2. Нара. 3. Кабура. 4. Заколка. 5. Пагарда. 6. Манета. 7. Рука. 8. Доза. 13. Закон. 14. Робат. 17. Пажар. 18. Лорка. 19. Альт. 21. Абат. 24. Паказ. 25. Паром. 26. Скала. 28. Ага. 30. Ара. 32. Факір. 33. Ларок. 34. Нета. 36. Дуда. 37. Ножка. 38. Абора. 40. Аптэкар. 41. Шакалад. 43. Аканом. 44. Апечак. 48. Амур. 49. Арап. 51. Жанр. 52. Брод.

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Вось дык пачасталіся

Гэтая гісторыя адбылася на мінулым тыдні. Прыехалі мы з бацькам у вёску і адведаць бабулю і дапамагчы тое-сёе па гаспадарцы. Бабуля пагаварыла з намі і сабралася чагосьці да суседкі. Ужо ля варот гукнула:

— Як піць захочаце, то ў біклазе бярыце свежы бярозавік .

Мы ўправіліся з панікілым за зіму плотам і з адчуваннем вялікай смагі спусціліся ў склеп, знайшлі біклагу і выпілі па добрай кружцы таго соку.

— Нейкі нясмачны бярозавік, — скрывіўся бацька.

— І то праўда, як вада, ды пахне не вельмі...

— Пэўна, тыя бярозы на балоце раслі, — вырашылі мы і зноў узяліся за работу.

А тут і бабуля вяртаецца:

— Ну што, хлопцы, бярозавікам ласаваліся? Смачны?

Каб не пакрыўдзіць бабулю, мы адказалі, што сок нам спадабаўся.

— Ну дык, можа, возьмеце трохлітровік-другі з сабой у горад?

— Бабуля, мы ўзялі б, але ж яго там зусім ня631многа.

— Бацюхны! — завойкала бабуля. — Напэўна, у біклазе дзірка. Яна ж амаль поўная была. Пойдзем у пуню, выцягнем біклагу на святло і паглядзім, дзе там цячэ.

Цяпер здзівіліся мы:

— Бабуля, а што у цябе ў біклазе, якая стаіць у склепе?

— Ды гэта, дзеткі, за зіму ў склепе вады назбіралася, біклага павалілася, у яе зачэрпнулася вады. Я тую біклагу падняла, а ваду вынесці забылася.

Жываты ў нас балелі доўга. Можа, ад "бярозавіку", а можа, ад рогату.

**Сяргей ВІКТАРАЎ.**

## Гараскоп 29 красавіка – 5 мая

**Авен**
(21.03–20.04)

Будзьце пільныя, асабліва ў дачыненні да малазнаёмых людзей. Вам давядзецца ў гэты перыяд пазмагацца за свае правы, за свой аўтарытэт і сваё "я". Але ўжо да 5-га мая вы зможаце выйсці пераможцай з няпростага паядынку. Нейкая вестка здалёк можа вас засмуціць, калі вы яе ўспрымеце літаральна. Больш руху і фізічных нагрузак!

**Цялец**
(21.04–21.05)

Працягваецца канфлікт са сваякамі, які паціху перарастае ў ціхую "вайну". З гэтай сітуацыі вы можаце выйсці, калі прыкладзяце ўласныя намаганні. Магчыма, што і вашае працяглае недамаганне – толькі наступства ўнутранага канфлікту.

**Блізняты**
(22.05–21.06)

У гэтыя веснавыя дні пацягне на сонейка, але вы павінны быць гранічна ўважлівыя, асабліва да свайго ціску, горла і галавы. Галаўны ўбор абавязковы, ніякага загару. Не злоўжывайце лекамі. Толькі такім чынам вы захаваеце форму і паспееце зрабіць многае з таго, што проста "просіцца ў рукі".

**Рак**
(22.06–23.07)

Абвострацца асабістыя і любоўныя ўзаемаадносіны. Лепш за ўсё, калі будзе такая магчымасць, паехаць на некалькі дзён куды-небудзь далей ад дома. Толькі часовая разлука можа выратаваць вастрыню пачуццяў, якая вам, чамусьці, неабходная зараз. У справах жа – значны прарыў, рост аўтарытэту. Чакайце грошай.

**Леў**
(24.07–23.08)

Шмат клопатаў і хвалявання прынясуць дзеці, асабліва падлеткі, якія перастануць з вамі дзяліцца сваімі праблемамі. Гэта не павінна палохаць і ініцыяваць канфлікт "бацькоў і дзяцей". Дайце ім крыху свабоды і самастойнасці. Некаторыя непрыемнасці на рабоце можна прадухіліць, калі "навесці масты" з калегамі.

**Дзева**
(24.08–23.09)

Пачатак мая прынясе і пачатак узаемаразумення з партнёрам. У апошнія тыдні вам гэтага так неставала! Пастарайцеся не парушыць гэты кволы баланс. У вытворчай сферы намячаецца абсалютны застой, і ніякія вашыя намаганні не змогуць ускалыхнуць гэтае бюракратычнае балота. Выдаткі перавысяць даходы.

**Шалі**
(24.09–23.10)

Наступае складаны ў матэрыяльным плане перыяд, які будзе доўжыцца да канца мая. Як ні парадаксальна, але блытаніна і залішнія выдаткі будуць звязаныя, перш за ўсё, з вашым жаданнем кантраляваць літаральна ўсё. Падумайце над гэтым. Што тычыцца асабістага жыцця, то асалоду ад увагі процілеглага полу вы атрымаеце ў поўнай меры. І сцеражыцеся рэўнасці блізкіх!

**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Надыход мая абяцае рэзкі паварот падзей у асабістым плане: ці ў вас, ці ў вашага партнёра з'явіцца новая пасія. Захапленне можа быць такім моцным, што прывядзе да разбурэння сталага парадку жыцця. Але можа быць і наадварот: вы абодва распрацуеце новую стратэгію ўзаемаадносінаў. На рабоце – застой.

**Стралец**
(23.11–21.12)

Магчыма, будучыя дні – адныя з апошніх, калі ўсе вашыя думкі і жаданні могуць быць накіраваныя толькі на ўласныя інтарэсы. У вытворчай сферы ў хуткім часе ад вас запатрабуецца максімальнае прыкладанне сіл, новых ідэй і праектаў. Калі вы праігнаруеце змяненне сітуацыі, можаце застацца ні з чым.

**Казярог**
(22.12–20.01)

Магчыма, вы сустрэнеце сваяка, пра якога раней і не чулі, ці да вас часова пераедзе жыць блізкі сябар. У любым выпадку вашы дзверы будуць адчыненыя для ўсіх. Добры эмацыянальны стан і прага дзейнасці здзейсняць цуды: вы можаце быць павышаныя па пасадзе або адзначаныя немалой прэміяй.

**Вадалей**
(21.01–19.02)

Значную падтрымку і разуменне ў гэты перыяд вы можаце знайсці ў старога сябра. Хутчэй за ўсё, у выхадныя вы забудзецеся на сям'ю і абавязкі і з галавой кінецеся ў гэтыя зносіны, якія абяцаюць поўны душэўны камфорт. Аднак гэта наўрад ці спадабаецца блізкім, магчымая дамашняя сварка. Добрыя фінансавыя паступленні.

**Рыбы**
(20.02–20.03)

Блізкія Рыбаў выйдуць на дарогу вайны... адзін з адным. Увесь перыяд вам давядзецца кідацца ў бакі, заспакойваючы то мужа (жонку), то дзяцей, то старэйшых членаў сям'і. І, натуральна, справы ў гэты перыяд прыйдуць у некаторае запусценне. Застаецца пажадаць вам цярплівасці!



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9180 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№17 (366) 26.04.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1339. Падпісана ў друк у 13.00 25.04.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»